


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

3 мая 2002 года
№ 18 (367)
Выходзіць па пятніцах

плюс Тэле-тыдзень

«Рэгіянальная газета» віншуе са святам Вялікадня ўсіх праваслаўных і зычыць ім вясёлых святаў!



## Навіны рэгіёна

### Адключаць гарачую ваду

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА.** З 15 мая на два тыдні будзе адключаная гарачая вада. Апрасоўка цеплавых сетак будзе працягвацца 2 тыдні. Як сказаў намеснік начальніка Маладзечанскіх электрасетак па цеплазабеспячэнні **Леанід Кузняцоў**, у Вілейцы буйных рамонтаў не плануецца. Маладзечанцам з некаторых дамоў у раёне магазіна "Птушка", што па вуліцы Ф. Скарыны, і жыхарам залінейнага раёна з гарачай вадой давядзецца пачакаць, таму што там плануецца буйны рамонт.

**Ірына РАБУШКА.**

### Небяспечнае месца работы

**АШМЯНЫ.** 25 красавіка ў сваім кабінеце павесіўся 49-гадовы начальнік раённага вузла паштовай сувязі Л.Е.
Як расказаў памочнік пракурора **Станіслаў Міновіч**, самазабойцу знайшлі работнікі пошты. Матыў самагубства невядомы, вядзецца следства.
Два тыдні таму застрэлілася 41-гадовая касірка, якая працавала на гэтай пошце. Абавязкі начальніка раённага вузла паштовай сувязі выконвае **Эдуард Ванелік**, які раней працаваў галоўным інжынерам абласной пошты ў Гродне.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### Тры колеры адразу

**СМАРГОНЬ.** На мінулым тыдні можна было ўбачыць прыгожае відовішча: на святлафоры адразу тры колеры загарэлася. І спалоханыя вадзіцелі не адразу змаглі зарыентавацца, як правільна зрабіць: працягваць рух або саступіць дарогу. Хутка святлафор выключылі наогул.
Інжынер па арганізацыі дарожнага руху аддзялення ДАІ **Генадзь Севасцей** патлумачыў:
— Уся справа ў тым, што згарэў кантролер, і таму адбылася паломка. Але ў гэты ж дзень мы завезлі яго ў майстэрню ў Ліду, і ў бліжэйшы час святлафор пачне працаваць.

**Ірына ЯСІНСКАЯ.**

### Юбілей дырэктара

**ВАЛОЖЫН.** 5 мая 80-гадовы юбілей адзначыць дырэктар Івянецкага дзіцячага дома-інтэрната **Фёдар Гольдшміт**.
Сёлета споўнілася 35 год, як юбіляр працуе на сваёй пасадзе. Апошнія пяць год Івянецкі дзіцячы дом-інтэрнат – лепшы ў краіне сярод падобных навучальных устаноў.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### «Сузор'е камянёў»

**АСТРАВЕЦ.** З 25 па 29 красавіка ўпершыню ў райцэнтры праходзіла расійская выстаўка-продаж "Сузор'е камянёў". На ёй была прадстаўленая калекцыя ювелірных вырабаў з камянёў: упрыгожванні, талісманы, амулеты. У Астравец расіяне прыехалі з Ашмянаў, дзе таксама пабылі прыкладна з тыдзень.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

### Будзе новы сад

**МЯДЗЕЛ.** Пры школе ў Кабыльніку абнаўляюць стары сад. Там ужо 120 новых яблынь, сто з якіх пасадзілі гэтай вясной.
Саджанцы набылі з дапамогай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, бо школа з'яўляецца базавай у раёне па экалагічным выхаванні. А ў перспектыве плануюць пасадзіць тут звыш за шэсць сотняў новых дрэўцаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 4 мая

**Мінск**
**10**°С (уначы)
**21**°С (удзень)



**Вільня**
**12**°С (уначы)
**23**°С (удзень)



Нядзеля, 5 мая

**Мінск**
**9**°С (уначы)
**22**°С (удзень)



**Вільня**
**11**°С (уначы)
**22**°С (удзень)



# 70 год Івану Драўніцкаму

**МЯДЗЕЛ. У панядзелак 70-гадовы юбілей адзначыць вядомы краязнаўца з Камарова Іван Драўніцкі.**

Па адукацыі – педагог, працаваў настаўнікам у школах, некалькі дзесяцігоддзяў быў дырэктарам Куцькаўскай СШ. Мядзельскі раён і суседнія абышоў і аб'ехаў уздоўж і ўпоперак. Напісаў шэраг прац, артыкулаў пра выдатных асоб Нарачанскага краю, сабраў вялікі матэрыял па гісторыі навакольных вёсак, пра мясцовыя помнікі архітэктуры, багата паданняў. Каля сарака год кіруе краязнаўчым гуртком «Валошкі». А пра свае краязнаўчае жыццё зараз сам і раскажа.


Іван Драўніцкі рыхтуецца выступіць перад школьнікамі. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

### Самае цікавае адкрыццё...

Даказаў, што ў кампазітара **Дзмітрыя Шастаковіча** – беларускія карані. У Калодна на Свіршчыне жыў прадзед кампазітара, сына якога потым саслалі ў Сібір. Лічу, што гэтая работа – вартая ўвагі. Справа гонару – радавод сям'і. Сярод сваякоў быў нават першы парашутыст у Расіі – **Юзаф Драўніцкі**. Чатыры сотні скачкоў з парашутам зрабіў – сусветны рэкорд быў на пачатку стагоддзя. На жаль, у Віцебску няўдала скочыў, зачапіўся за дрот і загінуў.

### ... і мясціна

Можа, у Мягунах на Пастаўшчыне – адно з нямногіх на Беларусі месцаў, дзе ў сярэднявечны палілі ведзьмаў. Людзей, якіх абвінавацілі ў тым, што яны – чараўнікі, ад кароў малако забіраюць. Змог знайсці і прозвішчы тых людзей – у архіве захаваліся, аказваецца.

### Цікавасць да краязнаўства

Мабыць, гэта яшчэ ў школе была закладзена – такая цікавасць да роднага краю. Вучыўся ў Камайскай школе на Пастаўшчыне. Там побач Каралінова – таксама цікавае месца, дзе жыў знакаміты мастак **Альфрэд Ромэр**. Родныя расказвалі, як да яго ў госці хадзілі. Нават рэліквія захавалася, копія малюнка дзедавай хаты, якую Ромэр намаляваў. Пастаўскае педвучылішча, дзе навучаўся, беларускасцю адзначалася. Як настаўнічаць пачаў, больш краязнаўствам зацікавіўся, асабліва калі ў 1958 годзе прыехаў працаваць у Куцькі (цяпер гэтая вёска ў складзе Камарова). Тут асабліва месца – ну дзе яшчэ ў вёсках графскі палац ёсць?

### Як разгаварыць людзей

Пытанняў у лоб ніколі не ставлю. Пачынаю з таго: «Як вы жывяце, дзе працавалі?» Далей – болей: наводжу на тое, з-за чаго я тут. Ахвотна расказваюць, асабліва калі дазнаюцца, што я просты чалавек, на роварах прыехаў, што ніякі не начальнік. А з дзецьмі тым больш. Аповядаў нараскажуць, калі і пачастуюць яблыкамі, малаком і пераначаваць запросяць.

### Мара

Хацелася б напісаць кнігі пра Свір і тутэйшыя вёскі. Пра Альшэва кніжку напісаў, заканчваю пра Камарова, Канстанцінава. Частка матэрыялу з дапамогай сяброў з Пастаў нават і аддрукаваная. Трэба і за іншыя вёскі брацца.

**Запісаў Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Наступны ацяпляльны сезон горшы не будзе

**МАЛАДЗЕЧНА. Завершаны ацяпляльны сезон. Як сказаў першы намеснік старшыні гарвыканкома Яфім Ідэльчык, ён быў ідэальны у параўнанні з тым, што чакае нас у наступную зіму.**

Што чакае маладзечанцаў зімой? Ці будзе цяпло ў кватэрах? На гэтую тэму гаворым з намеснікам дырэктара Маладзечанскіх электрасетак па цеплазабеспячэнні **Леанідам Кузняцовым**.

**— На пасяджэнні гарвыканкома вы сказалі, што сёлета электрасеткі працавалі па зніжаным тэмпературным графіку. Што гэта значыць і як такі графік адбіваецца на спажыўцах?**

— Два гады таму мы перайшлі на работу па зніжаным тэмпературным графіку, таму што хацелі зэканоміць. Але ўбачылі, што такі графік нясе за сабой большы расход вады. І, адпаведна, большыя грашовыя выдаткі. А спажыўцы не адчуваюць розніцы – тэмпературны графік у кватэрах не парушаецца. У наступным сезоне тэмпературны графік мы будзем павышаць.

**— Праз пэўны час дамы пачынаюць выпускаць цяпло. Іх неабходна ўцяпляць. Колькі гадоў новы дом застаецца "герметычным"?**

— Сярэдняя гарантыя – 25 год. Некаторыя могуць і 50 год могуць не выпускаць цяпло. Тэрмін залежыць ад правільнай эксплуатацыі і якасці будоўлі. Трэба павышаць узровень прыёмкі новых дамоў, правяраць дамы на цеплаэфект. Гэтую аперацыю павінныя праводзіць будаўнічыя арганізацыі. Выдаткі на гэтую працэдуру мізэрныя. У нас ёсць спецыяльны прыбор – цеплавізар, які вызначае страты цяпла. Гэты апарат пацвердзіў эфектыўнасць шклопакетаў.

**— Ці хапае сямі гарадскіх магістраляў для нармальнага ацяплення?**

— Патрэбная перамычка паміж першай магістраллю, якая ахоплівае шосты мікраraён, і пятай, што ў раёне завода парашковай металургіі. Першая магістраль перагружаная, а вось пятая можа працаваць у больш напружаным рэжыме. Перамычка дазволіла б нармалізаваць становішча. Некалі распачыналі будаўніцтва, але ўсё сціхла. Зрабіць перамычку можна за 2 месяцы. Але дзе ўзяць 550 мільёнаў рублёў на яе будоўлю?

**— Ці будзе наступнай зімой цёпла?**

— Плануем павысіць тэмпературу ў кватэрах. Усё будзе наладжана належным чынам. Так што цяпло будзе!

**Ірына РАБУШКА.**


Фота Ірыны РАБУШКІ
Намеснік дырэктара Маладзечанскіх электрасетак па цеплазабеспячэнні Леанід Кузняцоў упэўнены, што наступнай зімой у кватэрах маладзечанцаў будзе цёпла.

■ ТЭАТР «БАТЛЕЙКА» ЗАПРАШАЕ

## Страшнік Гам

Жылі-былі Карова, Свіння, Баран, Сабака, Кот. Як і належыць свойскім жывёлам, гадаваліся яны пры чалавеку. Але людзі розныя бываюць. Ёсць добрыя, а ёсць і такія, што не могуць з жывёламі сябраваць.

Вось жывёлы і пайшлі ад людзей, знайшлі сабе хатку і жывуць у лесе самі. Але ўся бяда ў тым, што звяры прыхапілі з сабой людскія недахопы. Якія? Зайздрасць. Прагнасць. Сябелюбства. Страх. Вось і пасялілася ў лесе зло – жахлівая пачвара Страшнік Гам.

**Пятро ВАСЮЧЭНКА.**

## Казкі з куфэрка

Марыся, хадзем танчыць! – гаворыць Чорт беднай сіраціцы Марысі, якую злая мачаха адправіла ноччу на зачараваны млын.

Чым скончацца танцы Марысі, ye мачахі – заможнай пані Тадоры з дачкою Юстысяй? Акцёры ўпэўненыя, што галоўнае ў жыцці – знаходлівасць і пачуццё гумару.

**Таццяна ЧАЕЎСКАЯ.**

# «Зоркі Маладзечна» пятага склікання

**МАЛАДЗЕЧНА. 27 красавіка ў зале ДК чыгуначнікаў прайшоў пяты гарадскі конкурс “Зоркі Маладзечна”. Арганізаваў яго цэнтр мастацкай творчасці навучэнцаў.**

Пераможцы вызначаліся ў дзвюх узроставых групах і па двух жанрах: вакальна-харавым і харэаграфічным.

Сярод малодшых удзельнікаў журы ацаніла 9-гадовага **Ілью Басько** з песняй “Сена Маладое”, малодшую групу танцавальнай студыі “Грацыя”, танцавальную пару **Хрысціну Чарнюк** і **Рамана Слізаўскага** (клуб “Алімп” пад кіраўніцтвам Васіля Цуранкова). У старэйшай групе — ад 13 да 18 год — перамаглі навучэнка палітэхнікума **Анастасія Новік** з песняй “Сцяна”, старэйшая група танцавальнага калектыву “Грацыя”, а таксама танцоры **Алена Міхайлава** і **Раман Крылоў** з клуба “Алімп”.

Цэнтр мастацкай творчасці навучэнцаў адзначыў работу **Віктара Барановіча** і групу пад яго кіраўніцтвам “Акварэлькі” (СШ №1) за актыўную папулярызацыю і прапаганду народнага танца. Хаця, як сказала загадчыца аддзела выставак і масавых мерапрыемстваў цэнтра мастацкай творчасці навучэнцаў **Алена Сакалоўская**, мэтай дадзенай конкурснай шоу-праграмы з’яўляецца не выяўленне пераможцаў сярод дзяцей, бо ўсе яны ўжо з’яўляюцца пераможцамі пэўных занальных і раённых конкурсаў, а збор на адной сцэне ўсіх самых таленавітых дзяцей горада.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Пераможца конкурсу “Зоркі Маладзечна” у старэйшай узроставай групе Анастасія Новік.**

**Вольга ПАСЛЕД.**

■ СВЕТ КНІГІ

## Паэтычная сустрэча

**МАЛАДЗЕЧНА. 25 красавіка ў гарадской бібліятэцы імя М. Багдановіча адбылася паэтычная сустрэча “Гукаю верш з глыбіняў пачуцця”.**

Яна прысвячалася прэзентацыі кніг паэта **Міколы Шабовіча** “Падары мне сваю адзіноту” і сакратара Саюза пісьменнікаў **Навума Гальпяровіча** “Свет у акне”. Таксама свае песні на вершы М. Шабовіча выканаў **Мікола Яцкаў**.

На вечарыну сабралася больш за 160 чалавек, у асноўным, навучэнцы і пастаянныя чытачы бібліятэкі. За 2 гадзіны паэты прачыталі вершы і пародыі адзін на аднаго, адказалі на пытанні ў запісках, адна з якіх уразіла Навума Гальпяровіча, і ён паабяцаў надрукаваць яе ў якім-небудзь часопісе.

## Зрабі падарунак бібліятэцы

**МАЛАДЗЕЧНА. З 1 мая гарадскія бібліятэкі запрашаюць жыхароў гарадоў і раёнаў узяць удзел у дабрачыннай акцыі “Падары бібліятэцы кнігу”.**

Як расказала загадчыца аддзела абслугоўвання гарадской бібліятэкі імя М. Багдановіча **Ларыса Сысун**, у бібліятэкі звяртаюцца шмат навучэнцаў і студэнтаў з усіх рэгіёнаў. Таму на ўсіх кніг не хапае. У мінулым годзе гарвыканкам выдзеліў грошы на набыццё новай літаратуры толькі адзін раз.

– Выжываем толькі за кошт платных паслуг, – гаворыць Ларыса Сысун.

Асабліва патрабуецца праграмная і мастацкая літаратура, якая хутка зношваецца. Акцыя праводзіцца ўпершыню і будзе працягвацца да чэрвеня.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

# Дарожны рух вачыма дзяцей

**МАЛАДЗЕЧНА. 26 красавіка ў абласным цэнтры дзіцячай творчасці падвялі вынікі абласнога конкурсу “Бяспека дарожнага руху” сярод навучэнцаў школ і пазашкольных устаноў.**

Удзел узялі ўсе раёны і гарады вобласці, якія прадставілі каля 150 малюнкаў і звыш за 80 работ дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Дыпломы першай ступені атрымалі **Валодзя Мацюшонак** з Вілейскага раённага Цэнтра дзіцячай творчасці; **Каця Шабан** з Маладзечанскай СШ №4; **Таня Семяняка** са Стаўбцоў; гуртоК пачатковага тэхнічнага мадэліравання Вілейскага раённага ЦДТ. Першыя двое разам з дыпломамі і вазамі атрымалі па веласіпедзе. Астатнім замест веласіпедаў уручылі фотаапараты.

Пасля ўзнагароджвання выкладчыкі прапанавалі начальніку ДАІ ўпраўлення ўнутраных спраў Мінскага аблвыканкома **Аляксандру Мендзелеву** праводзіць такія конкурсы на рэспубліканскім узроўні.

– Безумоўна, мы вас падтрымаем. Дзе яшчэ можна пабачыць летне-зімовы варыянт жэзла інспектара (летні з саломы, а зімовы – з шарсцяной тканіны – аўт.) і хор дарожных знакаў? Толькі на такіх конкурсах.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

**10-гадовы віляйчанін Валодзя Мацюшонак атрымаў дыплом першай ступені на абласным конкурсе “Бяспека дарожнага руху” за малюнак “Служба ДАІ”.**

## Экалагічны конкурс

**Мінскі абласны камітэт аховы прыроды і навакольнага асяроддзя праводзіць штогадовы конкурс па асвятленні праблем экалогіі ў мясцовай прэсе.**

Ад рэдакцыі “Рэгіянальнай газеты” на яго прадстаўленыя матэрыялы пазаштатнага аўтара **Вадзіма Зубрыцкага**. У заяўку ўвайшлі цыкл публікацый “Геаэкалагічны стан горада Маладзечна і ваколіц”, артыкул “Краявіды Маладзечна”, а таксама матэрыялы з вынікамі вывучэння вадатокаў Маладзечна.

**Аддзел інфармацыі “РГ”.**

■ ПАРТРЭТ

# Лепшая роля – іграць саму сябе

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзевяцікласніца сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў Насця Траскевіч атрымала прыз за лепшую жаночую ролю на тэатральным фестывалі “Малая сакавіца”.**

### Экзамены

Дзяўчынку трэба было аддаваць у школу. У пачатку 90-х у моду ўвайшлі класы з рознымі ўхіламі. Але што рабіць, калі ў Настачкі не было ні слыху, ні голасу. І бацькі вырашылі аддаць дачушку ў англійскі клас. На экзамене Насця Траскевіч чытала **Ніла Гілевіча**. Рашэнне камісіі было аднадушнае: у тэатральны клас.

### Паўлінка

У 2000 годзе тэатральны клас ператварыўся ў тэатральную студыю “Кіпяток”. Назву падказаў верш Маякоўскага. З новай назвай і новае жыццё распачалося.

**Лілія Стасюлевіч**, кіраўнік студыі, сказала:

– А ці не замахнуцца нам на Купалу?

Абралі “Паўлінку”. Галоўную ролю Паўлінкі даручылі Насці Траскевіч. Гэты спектакль і ролю ў ім лічыць самым-самым. Два гады на яго паклала. Узнагарода не прымусіла сябе чакаць. Прыз – насценны гадзіннік – за лепшую жаночую ролю на “Малой сакавіцы” дастаўся Насці. Яна кажа, што вельмі падобная на Паўлінку. На пытанне, ці зведала яна каханне, засаромелася.

– Бацькі каханню не перашкаджаюць. Пра свае пачуцці не гавару. Стараюся справамі даказваць. Вершы яму пішу.



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Насця Траскевіч. Вучаніца 9 класа мастацтваў. Знак задыяка – Блізняты. Верыць у цуд. Любіць упрыгожваць сябе завушніцамі ў выглядзе “?” на адным вуху і “!” на другім. Гэта і ёсць стаўленне да жыцця. Адказы на ўсе пытанні шукае сама.**

### Філасофія жыцця

Тэатр дапамагае Насці ў жыцці. Гэта адбіваецца на ўсім, што яна робіць. Голас. Пластыка. У зносінах з людзьмі можа ўваходзіць у іншы вобраз. І ніхто не здагадваецца.

Тэлевізар глядзіць рэдка. Лепшым спектаклем у Мінскім абласным драмтэатры лічыць “Чорную нявесту”. Уражвае талент хлопца, які сыграў у “Кіме”. Сабе ж пайсці ў артысты Насця не дазваляе, бо ёсць другое захапленне – геаграфія. Па гэтым прадмеце яна заняла другое месца на рэспубліканскай алімпіядзе.

**Ірына РАБУШКА.**

## Мінскі цырк у сельскіх школах

**ВАЛОЖЫН. Тыдзень па раёне калясіў выязны цырк Мінскага гарадскога аддзела культуры.**

Мінчане пабывалі ў СШ №1 і гімназіі райцэнтра, Дубінскай і Адамоўскай базавых і Забрэзскай, Гародзькаўскай, Сакаўшчынскай і Вішнеўскай сярэдніх школах. Калі падобныя відовішчы для вучняў валожынскіх школ не рэдкасць, то на сяле цырк не бачылі даўно.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Газонакасілка ад ірландцаў

**ВАЛОЖЫН. У апошнія дні красавіка для валожынскай школы-інтэрната прыйшоў дабрачынны груз з Ірландыі.**

Агульная вага падарункаў – паўтары тоны. Сярод іх была новая газонакасілка, пра якую даўно марыла адміністрацыя дома-інтэрната.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

# Прыехаў заацырк



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

**Львы Чып і Нера, з Афрыкі, падчас шлюбнага перыяду. Заацырк “Кубань”, 29 красавіка, Маладзечна.**

**МАЛАДЗЕЧНА. З мінулага тыдня на тэрыторыі аўтавакзала працуе Маскоўскі перасоўны заацырк “Кубань”.**

Расказвае старшы касір **Вольга Дудзенава**:

– У Беларусі мы са студзеня. Да вас завіталі з Вілейкі. Нешта ў Маладзечне няшмат народу, напэўна, месца няхручнае.

Пелікэны любяць свежую рыбу, а малпы ядуць 3 разы на дзень. І не толькі бананы, а бліны, розныя супы, бульбу.

Заалагічны цырк існуе ўжо 30 год і ўвесь час папаўняецца за кошт абмену.

– Раней у нас быў спецыяльны вагон, дзе жыў поні Рыжык, але сёння яго няма. Дык Рыжык часта ходзіць самастойна пагуляць. Ловім усім калектывам, дзе 17 чалавек, – смяецца Вольга Дудзенава.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Пакуль усё ціха. Курс рубля падае павольна

Першыя веснавыя месяцы года прадэманстравалі на валютным рынку, да радасці большасці з нас, чакаемую стабільнасць – курс беларускага рубля падаў павольна, у сярэднім, на 3 працэнты ў месяц і дабраўся да адзнакі 1770 рублёў рублёў за долар.




Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**30 красавіка ў маладзечанскіх абменных пунктах курс долара быў на мяжы 1745-1770 рублёў. Некаторыя эканамісты мяркуюць, што фінансавую сістэму краіны ад наступстваў крызісу можа выратаваць дэвальвацыя беларускай валюты да ўзроўню 2500 рублёў за долар.**

## Рубель будзе стабільны

Намаганні ўладаў па падтрыманні курсу аказаліся не дарэмныя. Хаця і чакаць рэзкага попыту на валюту няма адкуль. Таму што беларускія рублі, што знаходзяцца ў абарачэнні, больш-менш звязаныя: безнаяўныя ў разліках і бягучых плацяжах за тавары і паслугі, наяўныя – ва ўкладах і дэпазітах. Попыт на валюту задавальняецца на таргах валютна-фондавай біржы цалкам, без якіхсьці інтэрвенцый Нацыянальнага банка. Абяцаныя расійскім прэзідэнтам другая і трэцяя траншы крэдыту таксама будуць садзейнічаць аслабленню ціску на рубель. Таму можна з поўнай упэўненасцю канстатаваць бягучую стабільнасць рубля. Меркаванае летняе зацішша таксама наўрад ці яе парушыць.

## Бюджэтныя праблемы

Усе складанасці і праблемы цяперашняй беларускай эканомікі засярodзіліся на фінансавым і бюджэтным рынку. Казна пустая, бюджэты ўсіх узроўняў недабіраюць вялізныя сумы, прыпыненая большасць інвестыцыйных праектаў, растуць страты прадпрыемстваў. У сітуацыі фінансава-бюджэтнага крызісу рэальным сродкам выратавання краіны ад дэфолту некаторым эканамістам бачыцца аднаразовая рэзкая дэвальвацыя рубля. Ужо сёння рэальны курс долара некаторым бачыцца на ўзроўні 2500 рублёў, і ўсталяванне такога курсу ўжо заўтра вырашыла б многія праблемы фінансавага сектара, таму што сабекошт беларускіх тавараў у валюце знізіўся б у 1,5 раза. Аднак тады ўзнікла б праблема з паказчыкам 100-доларавага заработку. Па новым курсе рэальна атрыманыя рабочымі і служачымі сумы далі б толькі 70 долараў.

## Ці дапаможа дэвальвацыя

Падзеі на дэпазітным рынку таксама развіваліся плаўна: набраўшы пад 85% гадавых вялізныя сумы ўкладаў насельніцтва на кароткія тэрміны (у асноўным, на 35 дзён), усе банкі знізілі стаўкі да цяперашніх 55-65% гадавых, што яшчэ дае магчымасць атрымаць працэнтны даход прыкладна ў 5% у месяц. Калі ж адняць 3 працэнты на рост курсу долара, то атрымліваем розніцу, у сярэднім, 2 працэнты. Аднак, па ўсёй верагоднасці, даходнасць будзе працягваць падаць і далей, таму што стаўка рэфінансавання таксама знізіцца да 48% да канца года. Значыць, грошыкі паступова пачнуць з банкаў уцякаць. Але дзецца ж ім няма куды, акрамя валютнага рынку. Гэта ўзмацніць ціск на рубель, і попыт на валюту падрасце, што паскорыць рост курсу. Але тады ўкладчыкі проста рынуцца ў банкі за грашыма. Такі варыянт развіцця падзей фінансавымі ўладамі таксама пралічваецца, і вяртаць грошы грамадзянам дзяржаве не хочацца, яны ж працуюць на эканоміку краіны. Ды, уласна, і вяртаць няма чаго, грошы ж не ляжаць у банках, яны знаходзяцца ў выдадзеных прадпрыемствам крэдытах, у таварах на складах і магазінах. Але каб грошы вярнуць, прадукцыю яшчэ прадаць трэба. Вось тут і можа дапамагчы дэвальвацыя. Пры рэзкім росце курсу народ будзе хапаць усё запар у страху перад інфляцыяй.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 25 красавіка | 2 мая |
|---|---|---|
| Долар | 1735,00 руб. | **1737,00** руб. |
| ЕЎРА | 1542,15 руб. | **1567,56** руб. |
| Злоты | 429,08 руб. | **436,43** руб. |
| Літ | 446,51 руб. | **453,97** руб. |
| Расійскі рубель | 55,68 руб. | **55,68** руб. |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 1750 – 1780 руб. | **1750 – 1770** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 24.04 | 2.05 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2600 | **2580-2600** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 8800 | **9900-11300** |
| Сасіскі, 1 кг | 4300 | **4320** |
| Селядзец, 1 кг | 2200 | **2660** |
| Рыс, 1 кг | 650 | **620-920** |
| Грэчка, 1 кг | 530 | **510** |
| Цукар, 1 кг | 720 | **720** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 880 | **880-980** |
| Алей, 1 л | 1500 | **1600-1950** |
| Маянэз, 200 г | 340 | **300-550** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1900 | **1900** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 550 | **570** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 580 | **580** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 800 | **950-1500** |
| Капуста, 1 кг | 880 | **550-2600** |
| Лімоны, 1 кг | 1700 | **1700** |
| Апельсіны, 1 кг | 1600 | **1600** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1400 | **1500-1800** |
| Масла, 1 кг | 3500 | **3600** |
| Тварог, 1 кг | 1300 | **1700** |
| Малако, 1,5 л | 600 | **500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | **1200-1500** |
| Бульба, 1 вядро | 2500 | **2200** |
| Морква, 1 кг | 800 | **1000** |
| Яблыкі, 1 кг | 550 | **700** |

# Мода ад «Басфора»

**Адзін сябар, вядомы моднік, неяк шапнуў мне адрасок магазіна, у якім можна нядорага апрануцца. Аднойчы я туды трапіў, потым прыйшоў яшчэ раз, прывёў сяброў. І вось ужо на вечарынцы мы з сябрамі з ног да галавы былі апранутыя ў адзенне ад "Басфора". Я сустрэўся з дырэктарам магазіна "Басфор" Ліліяй Акуліцкай.**

**— Вы даўно хацелі займацца адзеннем?**

— Яшчэ ў дзяцінстве марыла быць дырэктарам магазіна "Бярозка".

**— А як пачынаўся "Басфор"?**

— Я часта выязджала за мяжу і звяртала ўвагу на адзенне. Разумела, што адзенне там і адзенне тут – зусім розныя рэчы. У Маладзечне тады быў абсалютны нуль. З'явілася ідэя, каб адзенне адтуль перанесці сюды. Усе нашы сябры хочуць прыгожа апранацца. За невялікія грошы і па апошняй еўрапейскай модзе. Потым ідэя ператварылася ў "Басфор".

**— Якія цяжкасці былі спачатку?**

— Для нас гэта быў першы вопыт, таму планаваўся бюджэт, выбар адзення з густам і прысутнасцю ідэі. Ідэя – адзенне для людзей, якія хочуць прыгожа выглядаць.

**— Як вы вызначаеце тэндэнцыі ў модзе?**

— Чым мне падабаецца мая справа – няма ніякага гвалту ні над сабой, ні над працэсам. Усё, што мы прапаноўваем, падабаецца нам самім. Мы арыентуемся на розныя напрамкі ў модзе. Атрымліваецца лепшае, што індустрыя моды стварае на дадзены момант.

**— Абнаўленне калекцый частае?**

— Раз на месяц.

**— А самі вы апранаецеся ў "Басфоры"?**

— Гэтае адзенне не толькі інструмент для зараблення грошай. Для мяне ўсё ператвараецца ў мега-шопінг. Быццам, ты ідзеш купляць штосьці для сябе і тое ж самае купляеш і для сваіх кліентаў. Мы вельмі трапятліва ставімся да тых, чый густ супадае з нашым. Гэтыя людзі для нас – знаходка. У кожнага чалавека сваё жыццё, і калі супадаюць хаця б густы ў адзенні, то і ў іншым чымсьці яны сходзяцца. Як і для нас, новая калекцыя для іх – гэта штосьці новае ў жыцці.

**— Адкуль з'яўляюцца кліенты?**

— Большасць – гэта сябры. Дзі-джэі, музыканты, журналісты.

Нядаўна з'явілася такая праслойка энергічных людзей, якія таксама гатовыя цікава апранацца.

**— Колькі ў вас звычайна рэчаў адной мадэлі?**



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Магазін «Басфор» прапануе сваім пакупнікам адзенне на любы густ.**

— Ад 1 да 6. Калі мадэль вельмі спадабалася, бывае, давозім яшчэ.

**— А памеры?**

Рэдка атрымліваецца паказаць мадэль па ўсіх памерах, асабліва цікавыя мадэлі. Усе хочуць купляць лепшае і нядорага. Лепшае купляюць хутка. У "Басфоры" мадэлі з'яўляюцца праз месяц-два пасля таго, як яны з'яўляюцца ў Еўропе. На рынках горада гэтыя "фішкі" з'яўляюцца яшчэ праз некалькі месяцаў.

**— У магазіне мала месца, адзенне вісіць уразнабой. Не думалі развешваць па колеры і памерах, як ва ўсіх магазінах?**

— Моднікам цікава капацца ў разнастайнай кучы. Працэс шопінгу ператвараецца ў прыемнае баўленне часу, задавальненне. Калі чалавек не проста выконвае фармальны акт куплі, а мае магчымасць паглядзець усё, што ёсць. Жыццё праходзіць у вельмі хуткім тэмпе, многія людзі робяцца ахвярамі гэтага тэмпу. А калі чалавек доўгі час праглядае мадэлі, ён больш выбіральна ставіцца да купляння.

**Уладзімір МАРТЫНЕНКА.**



## Маладыя спажыўцы вывучаюць свае правы

**МАЛАДЗЕЧНА. 27 красавіка прайшоў першы гарадскі конкурс сярод вучняў 9-11 класаў сярэдніх школ на лепшае веданне спажывецкіх правоў. Удзельнічала 6 каманд.**

У рамках конкурсу было прадугледжана 5 этапаў. Першы – прывітанне ці візітная картка. На працягу 3-5 хвілін каманда павінна была пазнаёміць з навучальнай установай, якую яна прадстаўляе.

Другі конкурс – размінка. Уключаў у сябе тэст з 5 пытанняў, якія падрыхтаваў аргкамітэт. Дзеці адказвалі на іх пісьмова. Потым паміж сабой спаборнічалі капітаны. Кожны задаваў і адказваў на 2 пытанні. Чацверты конкурс – "Гарачая лінія". Канкурсантам былі прапанаваныя дзве "спажывецкія" сітуацыі. На падрыхтоўку давалася 1 хвіліна. Апошні конкурс – дамашняе заданне. Трэба было стварыць антырэкламу на рэкламу тавару, які часта паказваюць па тэлебачанні.

Першае месца заняла каманда са школы мастацтваў. Пераможцам уручылі сумкі, гадзіннікі і торт. Гэтая каманда будзе прадстаўляць Маладзечна на міжрэгіянальным конкурсе, які плануецца правесці ў Мінску ў маі.

**Ірына РАБУШКА.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Сачыце за маёмасцю на дачах

**МАЛАДЗЕЧНА. 26 красавіка ў міліцыю звярнулася 42-гадовая мінчанка, у якой абакралі дачны дом, што ў вёсцы Папоўшчына.**

Як высветліла следства, крадзеж адбыўся ў перыяд з кастрычніка 2001 года на 19 красавіка. Невядомыя ці невядомы узламалі дзверы і знеслі халадзільнік, тэлевізар, 2 пыласосы, пральную машыну, тры дываны, кухонную мэблю і посуд. На месцы здарэння знайшлі навясны замок ад каліткі дачы.

Яшчэ ад злодзеяў пацярпелі дзве пенсіянеркі, 1924 і 1935 гадоў нараджэння. У ноч з 24 на 25 красавіка ў першай абрабавалі дачу ў вёсцы Баяры. Невядомыя разбілі вокны і знеслі харчаванне і спецадзенне на 80000 рублёў. У гэтую ж ноч падобным чынам абрабавалі суседку. Жанчына засталася без колаў для садовай каляскі, якія ацэненыя ў 15000 рублёў. Следчыя знайшлі толькі тры адбіткі ад абутку.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Памер ад падзення з лесвіцы

**МАЛАДЗЕЧНА. 27 красавіка ў рэанімацыйным аддзяленні бальніцы памер 65-гадовы мужчына.**

Ён трапіў у бальніцу з чэрапна-мазгавой траўмай, якую атрымаў пры падзенні з лесвічнай пляцоўкі. Гэта пацвердзіла ягоная жонка і суседзі. Як высветлілася, мужчына быў нецвярозы.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Гульня ФК «Маладзечна-2000» не ўражвае

**28.04 Днепр-Трансмаш (Магілёў) – Маладзечна-2000 3:1 (2:0)**

Галы: Распопаў (20), Ц. Калачоў (22), Булыга (50); Бычкоўскі (77).

Суддзя: А. Ромін (Мінск), 2000 гледачоў




Запасныя: Сысой, Асадоўскі, Карпіленка, Лявончык

Папярэджанне ў складзе "Маладзечна-2000" – Смірноў

Лепшы ў складзе "Маладзечна-2000" па версіі "РГ" – Дрозд

Маладзечанцы зноў памянялі стартавы склад. Не змаглі гуляць траўміраваныя **Рубацкі і Азаронак**. Варатар на трэніроўцы пашкодзіў пазванкі. Такое ж пашкоджанне ён меў леташні вясной і доўга лячыўся. Руслану не дазволіла выйсці на поле мышца бядра, якую пацягнуў у матчы з "Нёманам", што тады, дарэчы, перашкодзіла яму як след супрацьстаяць галявой атацы на нашы вароты.

Па меркаванні **Людаса Румбуціса, Сцепановіч** вінаваты ў першым прапушчаным у Магілёве голе, калі не дабраўся да флангавага прастрэлу, а ў астатнім дзейнічаў нармальна. **Дрозд**, наогул, быў ці не лепшы на полі. Яшчэ адна навінка: у лінію дзейнічалі цэнтральныя абаронцы. Улічваючы, што ўсе галы былі забітыя з межаў штрафной, наша абарона не выглядала трывалай. Не ўразілі і дзеянні каманды ў атацы. Неяк выпалі з гульні **Рапецкі, Мігас, Макрыцкі**. Што тут казаць, калі гол забіў абаронца, ды і то вельмі кур'ёзны, падобны на гол "Нёмана" ў нашы вароты. Біў **Бычкоўскі** метраў з трыццаці, і мяч паляцеў за спіну галкіперу, які далёка пакінуў вароты. Потым яшчэ былі рыкашэты ад перакладзіны і ад спіны недарэкі-галкіпера. Забіўшы гэтую "плюху", нашы актывізаваліся, і **Міхалёў** з **Тартоўскім** мелі добрыя моманты, але іх не выкарысталі.

Шахцёр – Лакаматыў-96 3:1, Дынама (Мн) – БАТЭ 1:2, Тарпеда-МАЗ – Гомель 2:1, Дынама (Бр) – Белшына 0:0, Тарпеда – Зорка-ВА-БДУ 4:1, Нёман – Славія 5:2.

| | |
|---|---|
| 1. Тарпеда-МАЗ | 9 |
| 2. Днепр-Трансмаш | 7 |
| 3. БАТЭ | 7 |
| 4. Тарпеда | 7 |
| 5. Нёман | 6 |
| 6. Шахцёр | 6 |
| 7. Белшына | 4 |
| 8. Гомель | 3 |
| 9. Дынама (Мн) | 3 |
| 10. Маладзечна-2000 | 3 |
| 11. Дынама (Бр) | 2 |
| 12. Зорка-ВА-БДУ | 1 |
| 13. Славія | 1 |
| 14. Лакаматыў-96 | 0 |

Бамбардзіры: **Галухін** (Тарпеда-МАЗ), **Падрэз** (Шахцёр) – па 3.

Пасля трох стартавых тураў маладзечанцы разам з "Шахцёрам" лідзіруюць (у станоўчым плане) у табліцы парушэнняў, маючы па два папярэджванні. А вось што тычыцца наведвальнасці трыбун, то менавіта "Маладзечна-2000" тут аўтсайдэр.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Абаронца ФК «Маладзечна-2000» Віталь Бычкоўскі (злева) у нядзелю забіў першы гол у вышэйшай лізе.**

## Табло

■ **ВЫЯЗНЫЯ МАТЧЫ "МАЛАДЗЕЧНА-2000"**

Адміністрацыя клуба арганізуе прагляд відэазапісаў гасцявых матчаў каманды ў памяшканні кафэ-бара "Тайм-аўт", што знаходзіцца ля ўвахода на стадыён.

Матч з "Дняпром-Трансмашам" будзе паказаны ў **суботу, 4-га мая** двойчы: у **12-00** і ў **17-00**. Сеансы бясплатныя.

■ **ДУБЛЬ**

**27.04 Днепр-Трансмаш (Магілёў) - Маладзечна-2000 3:0 (1:0)**

Галы: (37), (53), (86)

З трыма ачкамі пасля трох тураў Маладзечна-2000 дзеліць 9-12 месцы.

■ **КАНТРОЛЬНЫЯ МАТЧЫ**

**30.04 (СШ№5) Забудова – Беразінскае (абласны чэмпіянат) 7:1**

Галы: Ваўчок, Мартынаў – па 2; Філіпаў, Ельяшэвіч, Кандраценя.

**01.05 (СШ№5) Забудова (другі склад) – Беразінскае 5:0**

Галы: Кульбака – 2, Відрук, Смолік, Чабрыцкі.

■ **ЗАБУДОВА**

Старт другой лігі перанесены на 4 мая. Гэта выклікана тым, што далёка не ўсе патэнцыяльныя ўдзельнікі пералічылі стартавы ўзнос. У чысцінцаў тут усё нармальна. Яны (з дапамогай райвыканкама) большую частку грошай адправілі, а меншую гарантавалі афіцыйным лістом.

Каманда стартуе матчам у Мінску супраць "Дынама-БНТУ". А 11-га чысла прыме дома "Гомель-2". Усяго заявіліся 12 калектываў.

Да складу далучыліся **Аляксей Відрук, Алег Канапелька** і пяць прыезджых навічкоў.

■ **ШАХМАТЫ**

Прайшоў клубны чэмпіянат краіны. Бралі ўдзел 15 калектываў. Кожны матч гулялі 6 чалавек. Налічэнне ачкоў вялося не за асобныя партыі, а за перамогу (2 ачкі) ці нічыю (1 ачко) ў матчы. Перамагла магілёўская АСДЮШАР. У яе складзе на пятай дошцы выступаў маладзечанец **Віталь Качаткоў**. Такім чынам, майстар спорту з Маладзечна стаў чэмпіёнам краіны, і атрымаў права са сваёй камандай прадстаўляць Беларусь на розыгрышы Кубка Еўропы ў верасні ў Грэцыі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ГАРАДКІ

# Выйграла Верхняя Пышма

**МАЛАДЗЕЧНА. З 24 па 28 красавіка на гарадошных пляцоўках ДЮСШ прафсаюзаў адбыўся 9-ы турнір памяці ахвяр аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Сёмы раз ён адбываецца ў Маладзечне. Акрамя гэтага, турнір з'яўляецца другім этапам Кубка Еўропы 2002 года. На яго з'ехаліся мацнейшыя спартсмены Расіі, Украіны і Беларусі.**


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Маладзечанец Генадзь Сушко стаў лепшым сярод беларускіх гарадошнікаў на этапе Кубка Еўропы.**

У межах турніру праводзіліся асабістыя і камандныя спаборніцтвы. У першых узялі ўдзел 49 гарадошнікаў. Шасцёрка лепшых атрымала грашовыя прызы ад 50 да 200 у. а., а тройка лепшых – яшчэ і медалі.

У камандных спаборніцтвах удзел прынялі 15 каманд. Першае месца заняла каманда з горада Верхняя Пышма "Уралэлектрамедзь" (**Сяргей Немчыкаў, Уладзімір Палякоў, Уладзімір Песцераў**). У фінале яна выйграла ў "Маладзечанскіх электрасетак" (**Генадзь Сушко, Аляксандр Філістовіч, Дзмітрый Шайко, Ігар Бладыка**) з лікам 3,5:0,5. Трэцяе месца заняла каманда Ніжняга Ноўгарада (**Аляксандр Мярзянаў, Дзмітрый Кілеў, Васіль Бальшакоў, Юрый Караткоў**). Каманды-прызёры атрымалі медалі і грашовыя прызы ад 80 да 200 у. а.

Чэмпіён у асабістым заліку Уладзімір Палякоў успамінаў:

– Я гуляю ў гарадкі ўжо 32 гады, а першая перамога адбылася менавіта ў вашым горадзе, яшчэ ў 1976 годзе, калі ў Маладзечне праходзіў юнацкі турнір СССР.

Лепшыя ў асабістых спаборніцтвах:

1. Уладзімір Палякоў (Расія, Верхняя Пышма)
2. Яўген Калчанаў (Расія, Смаленск)
3. Генадзь Сушко (Маладзечна)
4. Віктар Данілаў (Маладзечна)
5. Уладзімір Песцераў (Расія, Верхняя Пышма)
6. Васіль Духанін (Расія, Краснадарскі край)
7. Вячаслаў Шчавелеў (Расія, Саратаў)
8. Дзмітрый Садкоў (Расія, Чарапавец)

Дадатак да гарадкоў

У Маладзечна прыязджаў прэзідэнт міжнароднай арганізацыі гарадошнага спорту **Яўген Артамонаў**, які паведаміў, што другі чэмпіянат свету па гарадках пройдзе ў 2003 годзе ў Мінску.

Астатнія этапы Кубка Еўропы пройдуць у Расіі. У ліпені гарадошнікаў прыме Чарапавец (турнір памяці **Барыса Назарава**), у жніўні – Ніжні Ноўгарад (турнір памяці **Мікалая Сінядзьева**). Фінальны этап пройдзе ў снежні ў Верхняй Пышме. Гэта адначасова будзе зімовы чэмпіянат Еўропы.

**Тацццяна СЕМАШКЕВІЧ.**

■ ПЕРШАЯ ЛІГА

# Незгулянасць новага складу

**27.04 Смаргонь – ЗЛіН (Гомель) 0:2 (0:1)**

Суддзя: Л. Лазнюха (Мінск)

Гол: Савельеў (5), Усаў (52)

Склад: Шэлест, Іваноў, Селіванаў, Курак, Давідовіч, Ваўчок (Максіменка, 62), Дукса, Шамшорык, Стэльмах (Шаблінскі, 55), Кошаль (Шаўчук, 69), Шпакоўскі.

Селіванаў не рэалізаваў пенальці на 77-й хвіліне.

Госці забілі галы на стартавых адрэзках кожнага з таймаў. Тым самым паказалі, што найлепшай тактыкай у гэтым матчы былі дзеянні ад абароны на контратаках. Калі б яе прымянілі смаргонцы, магчыма, маглі разлічваць на лепшы вынік. Аднак на матчы адкрыцця сезона перад бітком набітымі трыбунамі сваіх заўзятараў дзейнічалі, што называецца, першым нумарам. На жаль, навічкі яшчэ не прыцэрліся як след адзін да аднаго, таму згулянасці, наладжанай камбінацыйнай гульні не атрымалася. Актывізаваў гульню выхад на поле актыўнага **Шаблінскага**. У рэшце рэшт, гаспадары зарабілі пенальці (у штрафной быў збіты **Шпакоўскі**), але напрамак удару **Селіванава** адгадаў дасведчаны галкіпер **Рыжчанка**.

Прызы лепшаму гульцу і аўтару першага гола ў складзе гаспадароў нікому не дасталіся.

Камунальнік – Дарыда 0:3, Днепр-ДЮСШ-1 – Бяроза 3:1, Ліда – Асіповічы 1:2, Граніт – Тарпеда-Кадзіна 1:2, Нёман – Хімік 3:2, Дынама-Юні – Лакаматыў 1:2, Нафтан – Ведрыч-97 3:1.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ **АРМРЭСТЛІНГ**


Архіў «РГ».

**Валянцін Бабровіч.**

МЯДЗЕЛ. Студэнт 2 курса Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта **Валянцін Бабровіч**, ураджэнец Мядзела, заняў першае месца на правай руцэ на чэмпіянаце Рэспублікі сярод дарослых. Цяпер будзе рыхтавацца да чэмпіянату Еўропы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ **ГІРАВЫ СПОРТ**

МЯДЗЕЛ. Дзевяцікласнік Свірскай СШ **Сяргей Багуцкі** адзін з раёна ўзяў удзел у абласных спаборніцтвах юнакоў. У вагавой катэгорыі да 70 кілаграмаў ён быў першы. Прычым, выступаў Сяргей з траўмай ды і гіравым спортам пачаў займацца нядаўна.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## На гэтым тыдні гуляюць

**05.05 Бяроза – Смаргонь**

**05.05, 17-30, Беразінскае, дублі, Маладзечна-2000 – Славія**

Летась [illegible]:0 (Лявончык, Чарнель, Грыхуцік) дома і 0:3 (на выездзе)

**06.05 17-30 Маладзечна-2000 – Славія (Мазыр)**

+2=1-8 9-24. Летась 0:4 дома і 0:4 на выездзе

